Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

31 кастрычніка - 6 лістапада 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Ксенія: Маладзечна, 20 год, рост 173, вага 61; любімы мультфільм "Красавица и чудовище", па вечарах любіць глядзець мульцікі пра Тома і Джэры, не любіць, калі ў гэтую пару яе падманваюць.*

*Фота Сяргея КАПУЦКАГА.*

## РАСКЛАД РУХУ прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 1.11.97 г.

| Мал. Адпр. | Мінск Прыб. | Мінск Адпр. | Маладз. Прыб. |
|---|---|---|---|
| 4-32 | 6-17 | 4-18 | 6-10 |
| 5-30 | 7-17 | 5-14 | 7-09 |
| 6-03 | 7-45 | 6-35 | 8-08 |
| 6-30 | 8-19 | 6-48 | 8-22 |
| 7-29 | 9-17 | 7-37 | 9-31 |
| 8-24 | 10-12 | 8-15 | 10-03 |
| 8-59 | 10-47 | 9-00 | 10-47 |
| 9-55 | 11-44 | 9-42вых. | 11-21 |
| 10-41 | 12-29 | 9-54 | 11-41 |
| 11-43 вых. | 13.22 | 1104 | 12-51 |
| 12-55 | 14-42 | 12-00 | 13-49 |
| 13-40 | 15-30 | 12-56 | 14-42 |
| 14-34 | 16-23 | 13-39 | 15-26 |
| 15-31 | 17-19 | 15-00птн.,вых. | 16-40 |
| 16-02 птн., вых. | 17-33 | 15-37 | 17-24 |
| 16-25 | 18-13 | 17-41 | 19-29 |
| 17-20 | 18-59 | 18-29 | 20-15 |
| 17-50 | 19-35 | 19-14 | 21-00 |
| 18-27 | 20-14 | 20-24 | 22-08 |
| 19-48 | 21-22 | 21-14 | 23-00 |
| 20-24 | 22-05 | 22-15 | 23-59 |
| 21-11 | 22-57 | | |
| 22-30 | 0-07 | | |

**Маладзечна -Гудагай**

| | | |
|---|---|---|
| 8-35 | 10-20 | шт. |
| 13-21 | 15-09 | вых. |
| 15-40 | 17-21 | шт. |
| 17-49 | 19-34 | шт. |
| 20-35 | 22-21 | шт. |

**Маладз. - Крулеўшч.**

| | | |
|---|---|---|
| 7-18 | 9-38 | вых. |
| 8-32 Пол. | 13-13 | шт. |
| 12-40 | 14-59 | вых. |
| 20-44 | 23-15 | шт. |

**Маладзечна - Ліда**

| | | |
|---|---|---|
| 7-32 Бгд. | 9-04 | вых. |
| 8-44 | 11-53 | шт. |
| 12-33 | 15-42 | вых. |
| 14-29 | 16-37 | сер.,пт. |
| 16-17Юр. | 18-23 | н., сб. |
| 17-58 | 21-26 | шт. |
| 20-30 | 23-43 | шт. |

**Гудагай - Маладзечна**

| | | |
|---|---|---|
| 5-20 | 7-01 | шт. |
| 10-38 | 12-17 | шт. |
| 15-32 | 17-16 | вых. |
| 17-39 | 19-20 | шт. |
| 20-09 | 21-50 | шт. |

**Крулеўшч. - Маладз.**

| | | |
|---|---|---|
| 4-35 | 6-55 | шт. |
| 10-00 | 12-20 | вых. |
| 15-21 | 17-39 | вых. |
| 17-14 | 19-40 | шт.,Пол. |

**Ліда - Маладзечна**

| | | |
|---|---|---|
| 3-50 | 7-10 | шт. |
| 9-26 Бгд. | 11-02 | вых. |
| 9-06 | 12-27 | шт. |
| 12-06 | 15-20 | вых. |
| 15-59 | 19-17 | шт. |
| 18-44 Юр. | 20-58 | сер.,пт.,сб., н. |
| 20-30 | 23-43 | шт. |

**У раскладзе магчымыя змяненні.**

**Даведачныя тэлефоны вакзала (01773) 70848, 42423**

# Навошта шукаць адтуліну,

## калі ёсць шкловалакно, праз якое і так добра чуваць?

*МАЛАДЗЕЧНА. Раённы вузел сувязі сёлета накапаў у горадзе траншэй даўжынёй у 60 кіламетраў. Самы раз запрашаць на дапамогу дрэсіраваных кратоў. А многія з маладзечанцаў усё яшчэ прывычна шукаюць дзірку ў тэлефоне, каб сунуць туды палец.*

**Матэрыял аб развіцці тэлефоннай сеткі на Маладзечаншчыне чытайце на 2-й стар.**



## Навіны

### Краіна, дзе выпаў снег

***МАЛАДЗЕЧНА. З "круглага стала" пачаўся візіт моладзі з нямецкага горада-партнёра Эслінгена.***

На працягу тыдня нямецкіх юнакоў і дзяўчат чакала нямала сустрэч і падарожжаў: у маладзёжных арганізацыях горада, беларускай гімназіі і на заводзе ЛМК, па гістарычных мясцінах нашай Бацькаўшчыны (Мірскі замак, Нясвіж, Жыровіцкі манастыр, музей Я. Купалы), чакалі іх і ў многіх сем'ях.

Кіраўнік дэлегацыі, член Кола моладзі Эслінгена **Беата Хамер** сказала, што маладых немцаў больш прываблівае цёплае сонца і лагоднае мора паўднёвых краін, але цікава пазнаёміцца і з жыццём юнакоў і дзяўчат Беларусі, у якой ужо напрыканцы кастрычніка выпаў снег.

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*

### Гадзіна бясплатна

***ВАЛОЖЫН. З 1 лістапада дазваніцца па горадзе і раёне стане значна лягчэй - уводзіцца пахвілінны ўлік тэлефонных размоў.***

Бясплатная норма на месяц складае 60 хвілін. Калі хто яе перабярэ, плаціць дадаткова: 66 рублёў за лішнюю хвіліну - кватэраздымшчыкі, 72 - арганізацыі і ўстановы.

*Аддзел інфармацыі.*

### У бальніцы эканомяць

***СМАРГОНЬ. 55 тон бульбы нарыхтавалі для патрэб райбальніцы брыгады медыкаў.***

Яны працавалі ў калгасах імя Дзяржынскага, "Расія", імя Неўскага і інш. на ўборцы бульбы. Тыя, ў сваю чаргу, у якасці дапамогі выдзелілі па пяць тон бясплатна. Бальніца ж зэканоміла на гэтым 120 мільёнаў рублёў.

*Янук СІВАКОЎ.*

**МАЛАДЗЕЧНА**. Як і ў Лондане, тут ёсць свой "Біг-Бэн". За 50 год лонданскі гадзіннік спыняўся толькі раз. Нашаму ў наступным годзе стукне 10 год, а спыняўся ён двойчы. Як паведаміў інжынер-тэхнік гасцініцы "Маладзечна" **Аляксандр ЖАЎНЯРОВІЧ**, цяжка было адшукаць прычыну. Аказалася, што няспраўны невялікі (30x15x40 см) электронны блок, які і кіруе велізарным механізмам. Цяпер ён паказвае, акрамя іншага, што час падпіскі на 1998 год пайшоў! І ў Англіі можна атрымліваць "**Рэгіянальную *газету***", але, шаноўныя чытачы,

у нашым рэгіёне

**ПАДПІСАЦЦА ЗНАЧНА ЛЯГЧЭЙ!**



Падпісная цана застаецца ранейшай:

на
1 месяц- 8 тыс. р.
3 месяцы-24 тыс. р.
паўгода-48 тыс. р.

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

